# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 8 (55) Жнівень 2011 г.


## Мікіта Ліхавід: У гэтым шабашы я ня ўдзельнічаю



Палітвязень Мікіта Ліхавід напісаў, як яго прымушаюць пісаць у калёніі прашэньне аб памілаваньні. «І яшчэ, я не хачу, каб маім імем гандлявалі, як фішкамі на картачным стале. Гэта я да таго, што калі ў кагонебудзь ёсьць думкі выпускаць фігурантаў справы "19 сьнежня 2010 году", за нейкія "пернікі", то я адмаўляюся ўдзельнічаць у гэтым шабашы. Хай выпускаюць тых, хто вінаваты і жыве па рэжыме, а я сваё імя і свой гонар за магчымасьць есьці пернікі са згушчонкай не прадаю». Пра гэта напісаў палітвязень Мікіта Ліхавід маці.

Маці Мікіты Ліхавіда атрымала ліст ад сына, які адбывае тэрмін у Наваполацкай калёніі № 10. Яна паведаміла, што яе сына зьмясьцілі на 3 месяцы ў ПКТ — гэта так званае "памяшканьне камэрнага тыпу". Туды зьмяшчаюць тых, хто шмат разоў парушаў нейкія турэмныя правілы і, як лічыць турэмшчыкі, ня стаў на шлях выпраўленьня.

«Мяркуючы па словах Мікіты, я зрабіла выснову (гэта чыста мае здагадкі), што агульная тэндэнцыя, калі ў "дзекабрыстаў" патрабуюць падпісваць розныя просьбы, дакацілася і да Наваполацкай калёніі.

Мікіта напісаў: "У гэтым шабашы я ўдзельнічаць не зьбіраюся", намякаючы, што ўлада хоча сарваць куш на прашэньні палітвязьняў аб памілаваньні», — расказала Алена Ліхавід.

«Я тут як на складзе, а адміністрацыя ўсяго толькі глядзіць, каб з гэтага склада нічога не прапала. Мне, каб выйсьці, не ляяльнасьць начальніка патрэбная, а вырак суду. Тут сыстэма простая: будзе паперка — яны выпусьцяць, адкрыюць браму і адпусьцяць на ўсе чатыры бакі, а ня будзе — значыць, не. А ад таго, дзе я сяджу, у зоне або ў СІЗА, розьніцы няма, я сяджу!» — піша Мікіта Ліхавід.

«Я ішоў на плошчу таму, што хачу жыць у свабоднай краіне. Каб у міліцыі служылі годныя людзі, а ня ўсе запар. Годных міліцыянтаў у наш час амаль не засталося, і, як правіла, яны ўсе са "старой гвардыі" і хутка сыдуць на пэнсію ў маленькіх званьнях. Афіцэраў, а тым больш зь "вялікімі пагонамі", якія вартыя сваіх званьняў, навогул адзінкі. Я хацеў, каб працоўныя ганарыліся сваёй прадукцыяй, каб моладзь не сьпівалася да 30-ці гадоў. Вось за што я ішоў на Плошчу і гатовы пакутаваць за свае ідэі, гатовы пакутаваць за людзей (не зьвяртаючы ўвагі на тое, хто яны: рабочыя, бізнэсоўцы або арыштанты, якія паўжыцьця сядзяць у турме), столькі, колькі спатрэбіцца. За іх права мець магчымасьць жыць у дастатку з пачуцьцём гонару за сваю краіну, а ня бегчы за мяжу ў пошуках лепшага месца», — піша Мікіта Ліхавід.

# Павал Севярынец працуе рознарабочым на складзе



Сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Павал Севярынец, асуджаны да трох гадоў абмежаваньня волі, пачаў працаваць у фэрмэрскай гаспадарцы «Бардо». Севярынец: «Працую тут падсобным рабочым на складзе. Дапамагаю афармляць дакумэнтацыю, пры неабходнасьці пераношу фарбы ці нешта іншае. Пакуль яшчэ знаёмлюся тут з усім. Начальства добрае, ставіцца няблага».

Фэрмэрская гаспадарка «Бардо» знаходзіцца на тэрыторыі былой вайсковай часткі ў вёсцы Куплін Пружанскага раёну. Разьмешчана яна адразу каля спэцкамэндатуры, дзе жыве цяпер асуджаны сустаршыня БХД. Гаспадарка спэцыялізуецца на вырошчваньні бульбы, капусты, буракоў, морквы, збожжавых. Займаюцца тут і вырошчваньнем рыбы. Павал Севярынец быў працаўладкаваны ў фэрмэрскую гаспадарку «Бардо» па загадзе са спэцкамэндатуры пасьля таго, як шматлікія прадпрыемствы і арганізацыі Пружанаў адмовіліся даць яму працу.

16 траўня Павал Севярынец, які падчас выбараў 2010 году кіраваў выбарчым штабам кандыдата ў прэзыдэнты Віталя Рымашэўскага, быў асуджаны на тры гады абмежаваньня волі з накіраваньнем ва ўстанову адкрытага тыпу паводле ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэксу (арганізацыя і падрыхтоўка дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак, або актыўны ўдзел у іх).

# Алеся Бяляцкага ня хочуць вызваляць



Віцебскі праваабаронца Павал Левінаў атрымаў адмоўны адказ на свой зварот ва Ўправу Дэпартамэнту фінансавых расьсьледаваньняў Камітэту дзяржкантролю. Ён зьвяртаўся ў згаданы ворган з хадайніцтвам аб асабістым паручальніцтве за кіраўніка праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага. Пастанову аб адмове ў задавальненьні хадайніцтва падпісала сьледчая 2-га сьледчага аддзяленьня Аддзелу папярэдняга расьсьледаваньня УДФР КДК РБ па Менскай вобласьці і г. Менску старэйшы лейтэнант фінансавай міліцыі Тацьцяна Касынкіна.

Сваё рашэньне спадарыня Касынкіна абгрунтоўвае тым, што "ў адносінах Бяляцкага А. В. выбрана мера стрыманьня ў выглядзе зьмяшчэньня пад варту" і "падставаў для зьмены гэтай меры стрыманьня ня маецца". Чаму выбраная мера стрыманьня ня можа быць зьмененай - сьледчая так і не патлумачыла.

Такім чынам, як мяркуе праваабаронца, атрыманы ім адказ парушае артыкул 137 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу. Згодна з часткай 3 гэтага артыкулу ў выпадку адмовы ў задавальненьні хадайніцтва, ворган, які вядзе крымінальны працэс, павінен вынесьці матываваную пастанову. Аднак у вынесенай Т. Касынкінай пастанове немагчымасьць зьмены меры стрыманьня ніяк не матывуецца.

# Вызваліліся і вяртаюцца дамоў Дрозд, Казакоў, Грыбкоў, Сакрэт, Яроменак, Парфянкоў, Мацукевіч і Кляткевіч



13 жніўня стаў днём вызваленьня як меней 8 асуджаных за Плошчу, якіх напярэдадні памілаваў Аляксандар Лукашэнка. Дрозд, Казакоў, Парфянкоў, Мацукевіч, Сакрэт, Грыбкоў, Яроменак — на волі. Тыя, пра каго дакладна вядома, што яны вызвалены і едуць дадому, ці ўжо дабраліся дадому, гэта Дзьмітры Дрозд, Сяргей Казакоў, Арцём Грыбкоў, якіх трымалі ў Бабруйскай калёніі №2, а таксама Яўген Сакрэт, які адбываў пакараньне ў калёніі №15 пад Магілёвам і Ўладзімер Яроменак, якога, паводле зьвестак, утрымлівалі ў калёніі "Віцьба-3". Вызваліўся і едзе дадому Ўладзімер Мацукевіч. Таксама вызвалены Аляксандар Квяткевіч, які адбываў тэрмін ў Івацэвічах.

Разам з трыма былымі вязьнямі бабруйскай калёніі мог выйсьці на волю Андрэй Пратасеня, але яго ў сьпісе памілаваных не аказалася: вязень адмовіўся падпісваць прашэньне аб памілаваньні і не быў вызвалены. Больш за тое, яго з аднаго атраду перавялі ў іншы, меней "прэстыжны". Пра гэта паведаміў Дзьмітры Дрозд, калі а 16-ай гадзіне прыехаў на электрычцы з Бабруйску.

Вязьняў сустракалі журналісты, прадстаўнікі грамадзтва, у тым ліку сваякі тых, каго яшчэ ня вызвалілі, быў сярод сустракаючых і лідэр АГП Анатоль Лябедзька. Дзьміры Дрозд заявіў, што гэты дзень для яго толькі напалову сьвяточны, а сьвята цалкам будзе тады, калі выйдуць на волю усе вязьні. Вось што Дзьмітры распавёў пра прашэньне аб памілаваньні, якое яму давялося падпісаць, каб выйсьці на волю сёньня.

"Справа ў тым, што чалавек, які прыяжджаў ад нас ў зону не настойваў на нейкай пэўнай фармулёўцы. Ён прапанаваў нам тэкст, у якім было напісана, што я цалкам прызнаю сваю віну і раскайваюся, на што я сказаў, што не прызнаю сваю віну па-ранейшаму. Тады ён прапанаваў папрацаваць над фармулёўкай, якая "нас усіх задаволіць". І я прапанаваў напісаць, што раскайваюся ў тым, што асабіста я зрабіў. Яго гэта задаволіла, маўляў, фармальнасьць, якую трэба выканаць. Мы выканалі і літаральна праз 5 дзён мы былі ўжо на волі."

На чыгуначным вакзале ў Менску аказаўся Васіль Парфянкоў, якога першым з асуджаных за плошчу судзілі яшчэ ў лютым і трымалі ў Аршанскай калёніі №8. Васіль Парфянкоў паведаміў, што яго толькі сёньня выпусьцілі з карцэру, а адтуль увогуле на волю. Вязень перакананы, што турэмшчыкі ведалі пра будучае вызваленьне, але ўсё роўна зьмясьцілі яго ў карцэр.

"Бо яшчэ 4 жніўня я хадзіў і расьпісаўся, што дакумэнты з прашэньнем аб памілаваньні пайшлі ў Менск, і ў той жа дзень за мной прыйшлі і "ўпакавалі" на 15 сутак. Зараз мяне, канешне, перапаўняе радасьць, што я вырваўся з гэтага палону, але безумоўна, галоўная барацьба яшчэ наперадзе. Трэба да яе рыхтавацца".

Пакуль запісваліся гэтыя інтэрвію, Сяргей Казакоў, які прыехаў разам з Драздом і Грыбковым з Бабруйску, ужо зьбег хутчэй з вакзала на аўтобус і паехаў дамоў. Яго прыйшлося запісваць праз тэлефон. Сяргей сказаў, што шчасьлівы і ніяк ня можа яшчэ асэнсаваць, што вось толькі раніцай ён быў у турме а зараз ужо дома побач з маці. На пытаньне, ці не шкадуе, што прыйшоў тады на плошчу, Сяргей адказаў: "Не, я ні пра што не шкадую, я ўсё разумеў, што раблю. Якія мае пляны? Буду працягваць сваю дзейнасьць, будзем змагацца".

Маці Уладзімера Яроменка пацьвердзіла, што ён вызвалены і едзе дамоў, а калі гэта адбудзецца, ня ведала. Сказала, што едзе дамоў з Магілёва і сястра Яўгена Сакрэта Ірына. Той абяцаў дабрацца да Анопаля, пад Менск, ўвечары.

# Андрэй Саньнікаў: Гэта чарговая брудная гульня ўладаў



Кандыдат у прэзыдэнты ўпершыню патэлефанаваў з Наваполацкай калёніі. Гутарка Андрэя Саньнікава з жонкай Ірынай Халіп доўжылася ўсяго 10 хвілін. За гэты кароткі час лідэр грамадзянскай кампаніі «Эўрапейская Беларусь», прысуджаны да 5 гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму, пасьпеў распытаць пра сына і ацаніў апошнія падзеі ў Беларусі, што да вызваленьня 9 удзельнікаў падзеяў 19 сьнежня, якія напісалі прашэньне аб памілаваньні.

«Размова ў асноўным тычылася нашага сына і маёй паездкі ў калёнію на будучым тыдні. Я спадзяюся, што атрымаецца патрапіць да Андрэя на кароткатэрміновае спатканьне. Муж паведаміў, што яго ўжо перавялі ў атрад. Ён у 3-м атрадзе. Цяпер усе могуць пісаць яму лісты. Андрэй ні на што ня скардзіўся. Стаўленьне з боку зьняволеных, паводле яго словаў, добрае», - распавяла Ірына Халіп сайту charter97.org.

Даведаўшыся пра вызваленьне 9 асуджаных па справе 19 сьнежня, Андрэй Саньнікаў спытаў, ці вядомыя іхныя прозьвішчы. «Калі я сказала, што вядомыя толькі чатыры прозьвішчы, ён сказаў:" Я так і ведаў, што гэта чарговая брудная гульня". Да яго самога ніхто не прыяжджаў і не прапаноўваў пісаць прашэньняў аб памілаваньні, але Андрэй падкрэсьліў, што нават калі і прыедуць, то гэта будзе пустой тратай часу, паколькі ніякіх прашэньняў ён пісаць не зьбіраецца. Андрэй прасіў перадаць ад яго словы падтрымкі тым, хто выйшаў на волю», - паведаміла жонка палітвязьня.

Адрас для лістоў: *211445, Віцебская вобл., г. Наваполацак-5, ВК-10, 3-і атрад, Саньнікаву А.А.*

# *Анархіста Ігара Аліневіча перавялі ў атрад*



Анархіста Ігара Аліневіча нарэшце перавялі ў атрад. Пра гэта Ігар паведаміў сваёй сяброўцы Ганьне ў лісьце з Наваполацкай калёніі, дзе ён зараз адбывае пакараньне. Ён піша, што не губляе аптымізму і перадае прывітаньне ўсім змагарам за свабоду, — кажа Ганна:

«У мяне ўсё добра. Умовы, асабліва пасьля СІЗА, — прымальныя. Харчаваньне нармальнае, з поштай і газэтамі ўсё ў парадку, ніякага пэрсанальнага ціску няма. Пакуль толькі перавялі ў атрад, асвойваюся, што па чым. Адносіны зь людзьмі нэўтральныя. У “Амэрыканцы" сядзеў зь Лябедзькам, Фядутам, Малчанавым, на “Валадарцы" з Казаковым. Гляджу наперад з энтузыязмам, сумаваць нагоды асаблівай няма. Прывітаньне ўсім змагарам за свабоду!»

27 траўня 2011 года судзьдзя Заводзкага раёну Менску Жанна Хвайніцкая асудзіла Ігара Аліневіча на 8 гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Яго абвінавацілі ў шэрагу нападаў на дзяржаўныя і прыватныя будынкі. Сярод іх - закідваньне бутэлькамі з запальнай сумесьсю Расейскай амбасады 30 жніўня 2010 году.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.